# Дэм-Арш

## Дэмакратычная Аршанчына

№ 1 (1) ліпень 2000 Распаўсюджваецца бясплатна

*Выданне дэмакратычных сілаў Аршанскага рэгіёну*




D/A Апытанне

## Сціраюць грані

*Некалі класік камунізму сказаў, што адным з адрозненняў вышэйшага сацыяльнага строю ёсць "стирание граней между городом и деревней".*

Не так даўно "грані" сціралі паміж Балбасавам і Оршай, дзе дасёння дзейнічае нават не пасялковы, а сельскі Савет: на рэферэндуме, інспіраваным райвыканкамам, палаўляючая большасць насельніцтва выказалася за тое, каб увайсці ў склад Оршы. Гэта нават не зважаючы на адлегласць ад яе ў добры дзесятак кіламетраў. Цяпер, зноў жа ідучы насустрач "просьбам жыхароў", райвыканкам вырашыў, што вёска Андрэеўшчына таксама стала больш падобнай на горад. У бліжэйшы час тут плануецца правесці рэферэндум наконт вызначэння статуса населенага пункта і ўваходжання яго ў інфраструктуру горада. За ўсім гэтым зноў жа тырчаць вушы райвыканкама, які такім чынам хоча пазбавіцца населеных пунктаў, дзе шэраг застарэлых праблем, вырашэнне каторых патрабуе значных капіталаўкладанняў. Праўда, вось пытанне: дзе будуць праводзіць рэферэндум? У Балбасаве ён праходзіў у РДК, а ў Андрэеўшчыне бібліятэкі няма, клуб на рамонце. Застаецца толькі школа. Да таго ж пагаворваюць, што ў сталіцы не рвуцца зацвярджаць змену статуса мястэчка Балбасава, так што з гэтым сціраннем "граней" праблем.

*Юрка Аршанскі*

## Слова да чытача

Добры дзень, паважаны чытач! Перад табой першы нумар Аршанскай гарадской газеты, што выдаецца дэмакратычнымі арганізацыямі нашага рэгіёну. Мы выступаем за тое, каб на Беларусі быў усталяваны дэмакратычны лад, каб кожны просты чалавек мог абараніць свае законныя правы перад дзяржавай, каб наша краіна заняла сваё годнае месца сярод еўрапейскіх дзяржаў. Адным словам, мы хочам, каб наша Беларусь выйшла на той шлях, па якім ідзе ўвесь цывілізаваны свет. На вялікі жаль мы не маем магчымасці давесці да цябе свой пункт гледжання праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Таму і нарадзілася ідэя выдання сваёй газеты. "ДэмАрш"—гэта Дэмакратычная Аршанчына. З другога боку—гэта наш дэмарш супраць уціску свабоды слова, бяздарнай палітыкі і чыноўніцкага ўсяўладдзя. Гэта дэмарш супраць нашага сёняшняга жыцця. Безумоўна, на пачатку нам будзе не хапаць прафесіяналізму і вопыту. Таму просім не судзіць нас занадта строга. У той жа час мы рады будзем атрымаць твае прапановы і заўвагі да нашай газеты. Чакаем і цікавых матэрыялаў. У добры шлях!

*Рэдакцыя*

## Сустрэча з мэрам вынікаў не прынесла

Як вядома, для многіх ваняўрадавых арганізацый адсутнасць юрыдычнага адраса сталася прычынай адмовы ў рэгістрацыі. У прыватнасці, у Оршы з-за гэтага не могуць атрымаць юрыдычны статус Задзіночанне беларускіх студэнтаў, шэраг першасных арганізацый Свабоднага прафсаюза, рэдакцыя газеты "Куцейна". Закон кажа, што грамадскія аб'яднанні не могуць месціца ў жылых памяшканнях (кватэрах ды прыватных дамах). А службовых памяшканняў мясцовыя улады не даюць. У сувязі з гэтай праблемай прадстаўнікі трынаццаці арганізацый накіравалі калектыўны ліст на імя мэра горада В.М.Майсеюка з просьбай аб сустрэчы.

20 чэрвеня такая сустрэча адбылася.У ёй бралі ўдзел прадстаўнікі Таварыства беларускай мовы, Маладога Фронту, рэдакцыі газеты "Куцейна", Свабоднага прафсаюзу, КХП-БНФ, Беларускага хельсінскага камітэту і шэрагу іншых арганізацый. Валянцін Міхайлавіч паведаміў, што ён гатовы супрацоўнічаць з грамадскімі арганізацыямі, але памяшканняў у арэнду выдзеліць не можа, спасылаўшыся на адсутнасць свабодных плошчаў у камунальнай уласнасці. Такім чынам праблема многіх грамадскіх арганізацыяў у Оршы застаецца нявырашаная.

*А.Аляксееў*

D/A Нарада

## З жанчынамі ў нас добра, у нас без жанчын дрэнна...

Наш прэзідэнт вельмі любіць жанчын. Магчыма не ў апошнюю чаргу таму ўрадам была прынята адмысловая праграма – "Нацыянальны план дзеянняў для паляпшэння становішча жанчын". І ўрад пастаянна патрабуе ад нізавых звенняў "вертыкалі" выканання этапаў гэтага нацыянальнага плана. У траўні ў намесніка старшыні гарвыканкама Аляксандра Калугі прайшла нарада, дзе былі заслуханы справаздачы ўсіх службаў, датычных да выканання гэтага плана. Становішча было адзначана не надта многа: гурток картынгу ў СШ N19 (малазразумела, праўда, якое дачыненне мае картынг да становішча жанчын), дзеянні так званых «женсоветов» на прадпрыемствах Оршы.

Загадчыца гарсабесу Аліна Забаронак адзначыла імклівае збядненне сем'яў – за апошні час колькасць заяў на матэрыяльную дапамогу значна вырасла. Загадчык цэнтра занятасці насельніцтва Аляксандр Шабека яшчэ раз пацвердзіў значную перавагу колькасці жанчын-беспрацоўных перад мужчынамі, а медыцына дадала: расце колькасць абортаў жанчын з першай цяжарнасцю, адпаведна расце жаночае бясплоддзе. Нарада скончылася як большасць падобных – слаўеснымі практыкаваннямі ўдзельнікаў, і канстатаваннем адсутнасці сродкаў на канкрэтныя захады.

*Карусь Дасціпны*

D/A Прэса

## «Віцебскі рабочы» прайграў суд

У канцы чэрвеня адвярнулася фартуна ад журналіста Г.Каралёва, які ўжо амаль 30 гадоў працуе Аршанскім карэ-спандэнтам "Віцебскага рабочага". Аршанскі раённы суд прызнаў, што ў яго артыкуле ўтрымліваліся звесткі, што абражаюць гонар і годнасць старшыні Аршанскага аддзялення Беларускага Хельсінскага камітэта Васіля Берасневa. Згодна з рашэннем суда таварыш Каралёў павінен абвергнуць гэтыя звесткі ў "Віцебскім рабочым", а таксама выплаціць В.Берасневу пэўную суму маральнага ўрону. Рашэнне суда, праўда, пакуль не ўступіла ў сілу, бо прайграўшы бок падаў касацыйную скаргу.

*А. Шутаў*

D/A Справы царкоўныя

## Бывай, Куцейна

Распараджэннем епіскапа Віцебскага і Аршанскага Дзімітрыя настаяцель Куцеінскага манастыра айцец Венядзікт адкліканы ў вобласць. Яшчэ раней у Віцебск адкліканы манах Спірыдон. Такім чынам славуты Куцеінскі манастыр, пра адраджэнне каторага столькі гаварылася апошнія гады, зноў апусцеў. Відавочна, справа ідзе да поўнага скасавання манастыра. У асяроддзі вернікаў гавораць, што Дзімітрый незадаволены тым, што Куцеінскі манастыр прыносіць не прыбыткі, а адны толькі страты для епіскапіі. Відаць святыя айцы забываюць адну спрадвечную ісціну: перш чым атрымаць прыбытак, у справу спярша трэба ўкласці грошы. А так з неба нават на божыя ўстановы грошы сёння не валяцца. Група вернікаў з гэтай нагоды напісала слёзны ліст да мітрапаліта Філарэта і патрыярха Алексія.

*Юрка Аршанскі*

## Лепшыя БПСМаўцы жывуць побач

У Віцебску абласны камітэт БПСМ правеў конкурс на лепшую пярвічку БПСМ. Лепшай сярод лепшых стала арганізацыя БПСМ Балбасаўскай сярэдняй школы Аршанскага раёна. На другім месцы – пярвічка БПСМ СШ N3 горада. Так што хутка паедуць да аршанцаў з усёй вобласці вывучаць перадавы досвед. Або аршанцы паедуць па вобласці дзяліцца перадавымі тэхналогіямі БПСМаўцыны.

*Юрка Аршанскі*

D/A Злачыннасць

*Апошнім часам у Аршанскім раёне назіраецца незвычайны рост крадзяжоў усяго, што ўтрымлівае каляровыя металы.*

Асабліва гэта адчула аршанскае прадпрыемства электрасетак. Сёлета ўжо двойчы выкрадаўся элетраправод з вадакачкі ў Пашыне, а замяніць ужо і няма чым. Так што ў Пашыне цяпер праблема з пітной вадой у калонках. Пашына - не адзіны населены пункт, які пацярпеў ад здабытчыкаў каляровых металаў: двойчы зразаўся электракабель на падобных аб'ектах у Якаўлевічах, тройчы – у Андрэеўшчыне, сярод пацярпелых значацца Харкаўка, Лагі, Бухаўцы, Машкова, Пуглаі. Летась па раёну ўсяго было зрэзана за год 1,2 тоны праводоў, а сёлета за 5 месяцаў – ужо 1,8 тоны. А злодзеяў, здаецца, яшчэ ні разу не злавілі.

*Алесь Аршычны*

D/A Аб'яднанне месяца

# Дэмакраты будуць разам

20 чэрвеня 2000 года застанецца памятнай датай у гісторыі Аршанскага дэмакратычнага руху. У гэты дзень была ўтворана Каардынацыйная Рада дэмакратычных сілаў Аршаншчыны. На першым пасяджэнні ў яе склад увайшлі: *Аршанская Рада Таварыства беларускай мовы, Цэнтр "Шлях" (Барань), Цэнтр "Крывіч", Свабодны прафсаюз (Орша), Рэдакцыя газеты "Куцейна", Моладзевае аб'яднанне "Зорз", Малады Фронт, Задзіночаньне беларускіх студэнтаў, "РША", аддзяленні Беларускага Хельсінскага камітэту, Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Сацыял – дэмакратычнай партыі г. Оршы і Барані.*

Мяркуецца, што ў Рады не будзе аднаго пастаяннага старшыні, а старшынствуючы будзе абірацца на кожным паседжанні. Рашэнні Рады будуць мець кансультатыўны характар.

Мэта новага аб'яднання – каардынацыя дзеянняў дэмакратычных сіл Аршаншчыны.

*М.Зарэцкі*

D/A Лета



## Ёсць жаданне адпачыць?

***Надыйшлі вакацыі— самы любы час для студэнтаў, вучняў і ўсіх, каму надакучылі лекцыі, сесіі ды канспекты. Чым жа так нам падабаюцца вакацыі? Зразумела — адпачынкам. Так-так, адпачынак—вось, што мы любім у вакацыях. І не важна, кароткія гэта вакацыі ці вечна доўгія, галоўнае, каб адпачынак быў сапраўдным, насычаным ды цікавым. Як зрабіць свой адпачынак класным ды незабыўным—спытаеце вы. Давайце падумаем разам і пазнаёмімся з нашым вопытам!***

Дык вось, у пачатку трэба сабраць невялічкую, але вельмі цёплую кампанію (чалавек 10-15 будзе як раз дастаткова). Так, далей трэба распрацаваць непадрабязны, але канкрэтны план: калі спякотна—рушым на пляж ці ў вёску, калі дождж—збіраемся ў каго-небудзь на хаце (можна пачарзе ў кожнага з удзельнікаў адпачынку). Цяпер галоўнае прыдумаць, што, дзе ды як будзеце рабіць.

Калі будзеце піць, дык піце ня шмат і лепей піва, так большая верагоднасць, што не нап'ецеся, а весела ўсё адно будзе. Калі будзеце есці, дык, хлопцы, самі лепш не гатуйце, Бог ведае, што ў вас можа атрымацца. Калі жадаеце хутка, якасна й без наступстваў пазмагацца з апетытам, дык зьвяртайцеся да дзяўчынаў, рэдка беларуская дзяўчына ня ўмее гатаваць.

Цяпер пра месца. Адпачываць можна паўсюль, але лепей, безумоўна, на прыродзе. Тутака трэба папярэдзіць: не падпаліце лес і ня сядзьце на мурашнік. Гэта, бадай, самае галоўнае ў такім адпачынку. Купайцеся толькі пры ўмове, што будзе каму выратоўваць. Загарайце з розумам, сонца—крыніца радыяцыі ды рака скуры, а ня толькі прыемнае задавальненьне. Калі ж вам рупіць дзе-небудзь задзіночыцца са сваім каханьнем, дык у Оршы шмат рэстарацыяў ды добрых месцаў з марозівам, але ж не забывайцеся на выраз з аднаго рэкламнага роліку: "толькі не забудзьцеся захінуцца."

А цяпер мы падыходзім да самага галоўнага ўва ўсім гэтым пытаньня—як. Як жа зрэалізаваць усё задуманае? Як узмацніць летні адпачынак? Ну, тут усё залежыць ад вашых магчымасцяў ды ўласнае фантазіі. Вы можаце лётаць на роварах ці спрабаваць пераплысьці Дняпро. Вы можаце паліць штовечар вогнішча ды смажыць вялізныя скрылікі сала. А можаце гуляць без перапынку ў футбол ці заняцца бегам. Урэшце – зашыцца з сябрамі на лецішчы і жыць тамака аршанскімі рабінзонамі. Карацей, як было сказана раней, усё залежыць толькі ад вас.

Прынамсі я паспрабую ўсё, што ўжо пералічыў, а нават і болей, бо люблю спрабаваць ды чыніць эксперыменты. Калі вы падзяляеце такі падыход да справы, дык мы абавязкова сустрэнемся там, дзе адпачыць можна!

D/A Навіна месяца

# Гэта называецца - прыватызацыя пабеларуску

28 красавіка апублікавана пастанова ўраду, згодна каторай да жыцця вяртаецца такі некалькі падзабыты савецкі тэрмін, як "лішкі жыллёвай плошчы". Тыя, хто праззмерна спадзяваўся на гарантыі нашай хітрай дзяржавы і бадзёранька прыватызаваў сваю кватэру, спадзеючыся хоць пажыць вольна, цяпер задумваюцца. Згодна гэтай пастановы, цяпер на кожнага жыхара прыпадае жыллёвая норма – 20 кв. м. Плюс 10 квадратаў на сям'ю. Усе, у каго большыя квоты жылля, цяпер за гэтыя "лішкі" будуць плаціць па сабекошту жылля, без розніцы, наймальнік ты, ці ўладальнік кватэры. Ні дадаць, ні ўзяць – жыллёвая развёрстка. Казалі ж разумныя людзі – не гуляйце ў азартныя гульні з дзяржавай.

*Алесь Аршычны*

D/A Памяць

*У час святкаванняў 55-годдзя перамогі над фашызмам гучала нямала слоў пра памяць аб палеглых і г. д. На справе, як заўсёды ў нас, атрымліваецца больш празаічна.*



# Вайна з мёртвымі

Напрыклад, у Барані ёсць помнік савецкім танкістам, дзе на пастаменце ўстаноўлена самаходная артустаноўка САУ-100, адкрыты 9 верасня 1990 года. Да сённяшняга дня мала хто ведае, што пад той клумбай кветак, што разбіта перад помнікам, ляжаць палеглыя воіны. Нішто і ніхто не нагадвае пра тое, што тут паразахаваны парэшткі 8 чырвонаармейцаў з вёскі Задроўе, якія палеглі там у час баёў 1-й Маскоўскай Пралетарскай матарызаванай дывізіі ў 41-м годзе, і 5 танкістаў са станцыі Чэрвіна, што загінулі там у 44-м годзе. Проста клумба з кветачкамі.

Надоечы ў гарвыканкам зноў прыйшла папера з запытам наконт нямецкіх вайсковых пахаванняў часоў вайны, які перадалі ў гарадскі фонд аховы помнікаў. Але, як вядома, беларускі ўрад афіцыйна заявіў нямецкаму боку аб тым, што не дапусціць якіх-небудзь перазахаванняў і ўшанаванняў нямецкіх вайсковых пахаванняў часоў апошняй вайны, паколькі нашы ветэраны катэгарычна супраць гэтага. Нават Расія заключыла пагадненні аб супрацоўніцтве з нямецкім нацыянальным саюзам па доглядy ваенных пахаванняў аб доглядзе за нямецкімі вайсковымі магіламі, і першыя крокі ў гэтым напрамку ўжо зроблены. А нашы ўлады ўсё яшчэ працягваюць ваяваць. Сапраўды, якія ўжо там нямецкія пахаванні, калі савецкіх жаўнераў дасёння непахаваных і недагледжаных ляжыць тут і там процьма

*Алесь Аршычны*

D/A Злачыннасць

# Крадуць і ў госпада

У ноч з 20 на 21 траўня ў крапівенскай царкве святога Аляксанда Неўскага былі ўзламаныя дзверы і ўкрадзены абраз Хрыста Збаўцы і даразахавальніца. Гэта першы вядомы выпадак на Аршаншчыне крадзяжу царкоўнага начыння за апошнія 30 гадоў.

*Карусь Дасціпны*

# Не хочуць рэагаваць? Прымусіць!

***На чарговым пасяджэнні гарвыканкама ў траўні разглядалася важнае пытанне: ход выканання ўказу прэзідэнта РБ N630 "Аб рэагаванні пасадавых асоб на крытычныя выступленні ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі".***

За 1999 год з "Аршанскай газеты" на рэагаванне было накіравана 42 матэрыялы, і на 38 з іх "эрэагавалі". Цікава, што "АГ" праводзіла апытанне сярод чытачоў на ўзровень гэтага самага рэагавання. З 358 рэспандэнтаў толькі 13 адмоўна вызначылі ўзровень рэагавання на крытыку ў "АГ". Тым не менш выканкам дзяржаўным сродкам масмедыя настойліва рэкамендаваў аналізаваць паступаючыя крытычныя матэрыялы, і па найбольш актуальных з іх праводзіць прэсканферэнцыі й круглыя сталы. "Аршанскай газеце" звярнуць асаблівую ўвагу на змест рэагавання, дабівацца прыняцця канкрэтных мер па публікуемых матэрыялах, і не ў апошнюю чаргу забяспечыць аб'ектыўнасць і ўзважанасць публікуемых матэрыялаў.

Цікава, што ў пастанове сярод дзяржаўных СМІ разам з "Аршанскай газетай" і рэдакцыяй гарадскога радыёвяшчання названа і тэлекампанія "Скіф". З чым яе і віншуем – некалі называўшая сябе "негосударственной, независимой" тэлекампанія "Скіф" ужо даўно стала і дзяржаўнай, і залежнай.

*Алесь Аршычны*

